# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 3 (178)
сакавік 2017

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:

### Дзмітры Плакс: Ніхто не робіць мне скідку на тое, што я эмігрант

Гутарка з Дзмітрыем Плаксам – пісьменнікам, перакладчыкам, журналістам, радыёпрадзюсарам, стваральнікам беларускай службы Радыё Швецыі (2004–2009).

**Працяг на старонцы 3.**

### У Маскве выйшаў падручнік для саманавучання беларускай мове 16+

Беларускі лінгвіст Антон Сомін ладзіць у Маскве моўныя курсы, заснаваў у Мінску "Фестываль моў", а таксама выдае ў Расіі падручнік па самавывучэнні беларускай мовы, які можна набыць толькі дасягнуўшы 16 гадоў.

**Працяг на старонцы 5.**

### Дзень Волі ў замежжы

Нью-Ёрк, Варшава, Маямі, Філадэльфія...

**Працяг на старонцы 6.**

### Аляксандар Навумаў: Веру, што Скарына быў у Венецыі і шмат чаму тут навучыўся

Прафесар Венецыянскага ўніверсітэта Ка Фоскары Аляксандр Навумаў, аўтар навуковых прац пра Францішка Скарыну, расказаў пра сваю гіпотэзу.

**Працяг на старонцы 7.**

# 15–16 ЛІПЕНЯ Ў МІНСКУ ПРОЙДЗЕ СЁМЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ:

## "Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа – выклікі сучаснасці і стратэгіі развіцця"

## Кампанія па зборы сродкаў для падтрымкі арыштаваных і іх сем'яў

Грошы неабходныя для пакрыцця штрафаў, на перадачы, а таксама сем'ям затрыманых, якія з-заператрусаў і арыштаў засталіся без сродкаў існавання. Гарантаваныя празрыстасць і мэтавасць выкарыстання.

Грошы можна перавесці альбо перадаць наступным чынам:

- Толькі ў BYN асабіста Nina Shydlouskaya альбо на яе картку Беларусбанк 4255190182607666 (дата заканчэння тэрміну дзеяння 07/19 на імя Nina Shydlouskaya), e-mail: pamazhy2017@gmail.com).
- Асабіста сем'ям арыштаваных (пішыце асабістыя пведамленні alaksiej.lavoncyk@tol.org, каб даведацца, каму на той момант дапамога будзе больш неабходная).
- Праз ЕРИП > г. Минск > Общественные объединения > профсоюз РЭП
- Paypal: alaksiej.lavoncyk@tol.org, jaugeni@gmail.com, nadzeya.norton@gmail.com
- Картка Прыватбанка 5168 7556 1238 0549 (Хоменко Анна Витальевна), картка Прыватбанка 4149605910823426
- На рахунак у Польшчы, Вялікабрытаніі, Італіі (удакладняйце рэквізіты праз асабістыя паведамленні alaksiej.lavoncyk@tol.org)



заява

# "СПРАВА 26-ЦІ" – НОВАЯ ХВАЛЯ ПАЛІТЫЧНАГА ПЕРАСЛЕДУ

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Саюз беларускіх пісьменнікаў пратэстуюць супраць палітычнага пераследу грамадскіх актывістаў.

Пасля перыяду ўяўнай лібералізацыі і пачатку доўгачаканага дыялогу з дэмакратычнымі краінамі беларуская ўлада зноў пачала прымяняць гвалт у адносінах да мірных дэманстрантаў, грамадскіх актывістаў, дзеячаў культуры, практыкаваць арышты і збіццё ўдзельнікаў негвалтоўнага супраціву.

Сістэмны эканамічны крызіс, у якім сёння знаходзіцца Беларусь, а таксама шэраг непапулярных заканадаўчых захадаў з боку дзяржавы, самы спрэчны з якіх – Дэкрэт №3 "Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства", спарадзілі грамадскае напружанне, вынікам якога сталіся лютаўскія і сакавіцкія масавыя мірныя акцыі па ўсёй краіне.

Адказам з боку дзяржавы на такую рэакцыю грамадства, гарантаваную Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, сталі каля тысячы затрыманых, сотні асуджаных паводле адміністратыўных артыкулаў – у асноўным актывісты недзяржаўных грамадскіх арганізацый і журналісты.

Нечуваныя па сваіх маштабах і жорсткасці рэпрэсіі займелі працяг у фабрыкаванні крымінальнай справы па артыкуле "Арганізацыя масавых беспарадкаў" (КК РБ, арт. 293, ч. 3) у дачыненні да 26 грамадзянаў, сярод якіх апынуліся палітыкі, грамадскія актывісты, распаўсюднікі беларускай кнігі, а таксама шараговыя грамадзяне. Усе яны былі затрыманыя прэвентыўна і не мелі ніякага дачынення да арганізацыі і правядзення ні папярэдніх акцый пратэсту, ні святкавання Дня Волі, што ладзілася 25 сакавіка.

Затрыманні па "справе 26-ці" праводзіліся гвалтоўна і нагадвалі выкраданні людзей невядомымі асобамі ў цывільным. Сваякі і адвакаты некалькі сутак не мелі інфармацыі пра месцазнаходжанне зняволеных, іх стан здароўя і прычыны арышту. Цяпер 26 затрыманым інкрымінуецца падрыхтоўка і навучанне асобаў для ўдзелу ў масавых беспарадках, за што ім пагражае да трох гадоў турэмнага зняволення. Пераканаўча, што ўзбуджаная адносна іх крымінальная справа носіць выключна палітычны характар, з'яўляецца бяздоказнай і мае адзіную мэту – запалохаць грамадства і адцягнуць увагу ад сацыяльна-эканамічных праблем у краіне.

МГА "Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»" і грамадскае аб'яднанне "Саюз беларускіх пісьменнікаў" выказваюць абурэнне хваляй палітычных рэпрэсій у дачыненні да прадстаўнікоў беларускай грамадзянскай супольнасці.

Патрабуем ад беларускіх уладаў спыніць рэпрэсіі, неадкладна вызваліць усіх зняволеных і зняць несправядлівыя абвінавачанні, а таксама прыцягнуць да адказнасці тых службовых асобаў, якія парушаюць канстытуцыйныя правы грамадзян.

Заклікаем беларускае грамадства ў краіне і за яе межамі да праяўлення салідарнасці з затрыманымі і іх сем'ямі.

Заклікаем міжнародную грамадзянскую супольнасць і кіруючыя органы дэмакратычных краін свету рашуча адрэагаваць на рэпрэсіі супраць грамадзянаў Беларусі і запатрабаваць ад беларускага кіраўніцтва забеспячэння правоў чалавека і выканання нормаў законнасці.

Выказванне грамадзянскай пазіцыі і патрыятызм не з'яўляюцца злачынствам.

Мінск, 28 сакавіка 2017 г.

навіны

## НА СВЯЦЕ "ЛЯВОН І ЛЯВОНІХА" ПРАВОДЗІЛІ ЗІМУ І СУСТРЭЛІ ВЯСНУ

12 сакавіка 2017 года ў Даўгаўпілскім Цэнтры беларускай культуры (ЦБК) прайшло свята "Лявон і Лявоніха", арганізаванае беларускім культурна-асветніцкім таварыствам "Уздым".

Свята "Лявон і Лявоніха", якім "Уздым" праводзіць зіму і сустракае вясну, стаў добрай штогадовай традыцыяй грамадскай арганізацыі.

Гасцей цёпла сустракалі, віталі і весялілі гаспадары – "Лявон" у выкананні члена праўлення Саюза беларусаў Латвіі Валерыя Амбросава і "Лявоніха" ў выкананні ўдзельніцы танцавальнага ансамбля "Лянок" Алены Кічы. У гэты дзень ва ўсіх была магчымасць яшчэ раз павіншаваць адзін другога з нядаўнімі святамі жанчын і мужчын, выказаць добрыя пажаданні, падарыць кветкі і сувеніры.

Шчырая беларуская песня стварала святочны настрой. Гучалі вершы і жарты, разыгрываліся мініяцюры.



Стараннямі гаспадынь "Уздыму" стол упрыгожвалі стравы беларускай нацыянальнай кухні. Паглядаючы на ўсё гэта, за акном ласкава ўсміхалася вясновае сонейка.

Цэнтр беларускай культуры (Даўгаўпілс, Латвія)

## БЕЛАРУСЫ ГУКАЛІ Ў НЬЮ-ЁРКУ ВЯСНУ

Правядзенне абраду прызначылі на 12 сакавіка ў бруклінскім Праспект-парку.

Прыехаў з Нью-Джэрсі Сяржук Сокалаў-Воюш з жонкаю Ганнай і сынам Светавітам, за імі завіталі хлопцы і дзяўчаты, нават двое немаўлят з маладзенькімі маці. Усім хацелася пакрасавацца ў вышыванках, таму хлопцы пачалі напяльваць іх проста паверх куртак з капюшонамі.

Каб сагрэцца, закружыліся ў хуткіх карагодах, змяняючы адну песню на другую. Ганна адарыла ўсіх печывам у выглядзе птушак. Дзеці пасыпалі на пагорку грэчневае крупы, каб хутчэй прыляталі птушкі і прынеслі нам на скрыдлах цяпло.

Тады пайшлі тапіць у возеры ляльку-ведзьму Марэну, сімвал зімы, холаду ды зла, каб разам з ёй зніклі і нашыя ўсе праблемы і хутчэй запанавала вясна. Загукалі мы вясну, і, здаецца, сапраўды крыху пацяплела.

Валянціна Якімовіч, "Наша Ніва"

## У НОВАСІБІРСКУ ПРАЙШОЎ ДЗІЦЯЧЫ ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ ТВОРЧАСЦІ

Сяргей Доўгушаў, лідар гурта "Vuraj", які ў якасці сябра журы прадстаўляў на XI фестывалі-конкурсе "От Полесья до Сибири несите, аисты, весну" ЗБС "Бацькаўшчына", падзяліўся сваімі ўражаннямі.

"Фестываль раз на год ладзіцца Новасібірскім Цэнтрам беларускай культуры, якім кіруе Анастасія Трубянкова, і мне хацелася б адзначыць высокі ўзровень яго арганізацыі. Было шмат гледачоў, былі падарункі для ўдзельнікаў, а спонсарам выступіла Міністэрства культуры Новасібірскай вобласці.

Усе дзеці-выступоўцы – праўнукі колішніх перасяленцаў, і хаця яны самі, на жаль, па-беларуску разумеюць не вельмі добра, беларускія песні шчыра любяць і вельмі якасна іх выконваюць. У Расіі зусім іншыя адлегласці паміж населенымі пунктамі, і я быў у захапленні ад таго, што людзі гатовыя ехаць за столькі кіламетраў, каб пачуць беларускую песню. Дзеці спяваюць захоплена, яны задавалі мне шмат пытанняў, прасілі пракаментаваць іх выступы.

Для нас зладзілі экскурсію па горадзе, распавялі пра беларускую культуру ў Заходняй Сібіры. У тым рэгіёне ёсць сэнс ладзіць фальклорныя экспедыцыі. Напрыклад, я даведаўся пра вёску Каўбаса, дзе і цяпер жывуць носьбіты беларускай культуры. З гарадоў беларуская мова сышла, а ў вёсках, з якіх жыхары рэдка выязджаюць, на ёй гавораць. Хто ведае, якія беларускія песні там можна пачуць?

Таксама я наведаў школу, дзе беларускі гурток вядзе жанчына з Беларусі, Людміла Кашчэева. Яе выхаванцы якраз першае месца і занялі. Праспяваў ім некалькі песень, паказаў колавую ліру. На добры ўспамін падарыў плыты з беларускімі фальклорнымі запісамі, каб яны змаглі папоўніць свой рэпертуар".



Гутарыў Сяргей Кандраценка, прэс-сакратар ЗБС "Бацькаўшчына"

гутарка

# Дзмітры Плакс: НІХТО НЕ РОБІЦЬ МНЕ СКІДКУ НА ТОЕ, ШТО Я ЭМІГРАНТ

Дзмітры Плакс – пісьменнік, перакладчык, журналіст, радыёпрадзюсар. Нарадзіўся ў Менску. Жыве і працуе ў Стакгольме. Стваральнік беларускай службы Радыё Швецыі (2004–2009).

**“Радыё Свабода”: Ты казаў, што ў эміграцыі знікае пачуццё дому. Як з гэтым у цябе? Ты ўсё яшчэ адчуваеш сябе эмігрантам? Ці, можа, Швецыя ўжо стала тваім домам?**

**Дзмітры Плакс:** Такое пачуццё, як мне здаецца, звязанае і з канкрэтным месцам, і з адпаведнай атмасферай у гэтым месцы. У мяне такога месца няма.

**РС: А калі гаварыць толькі пра месца, дзе жывеш?**

**ДП:** Я жыву ў прыгарадзе Стакгольма, каля апошняй станцыі метро “чырвонай лініі”. Стакгольм – не надта вялікі горад, ад майго прыпынку да самага цэнтра цягнік ідзе дзесяць хвілін. Па менскіх мерках я жыву недзе каля станцыі метро “Усход”.

**РС: Чым ты займаешся ў Швецыі?**

**ДП:** Маё асноўнае месца працы – Радыё Швецыі. Я займаюся радыётэатрам... Гукавым мастацтвам.

**РС: А ты працуеш як аўтар радыёп’есаў ці як рэжысёр?**

**ДП:** Да нядаўняга часу ў мяне былі тры функцыі: драматург, рэжысёр-пастаноўшчык і прадзюсар. Апошні год я ў асноўным працаваў як прадзюсар. Я не працую на поўную стаўку, мне гэткая сітуацыя пасуе, бо ў мяне ёсць час займацца іншымі цікавымі рэчамі: пісаць, перакладаць, рабіць мастацкія праекты.

**РС: Ты пісаў п’есы?**

**ДП:** Так, я пісаў п’есы. І яшчэ ў ролю драматурга ў тутэйшых тэатрах таксама ўваходзіць праца з тэкстамі іншых аўтараў. Тэкст у аўдыёпастаноўках функцыянуе па-іншаму, чым на паперы, і я працую з аўтарамі дзеля таго, каб іх тэкст можна было пусціць у вытворчасць на радыё.

**РС: Як табе, чалавеку, які шведскую мову вывучыў ужо ў спелым узросце, удалося атрымаць працу ў радыё і да таго стаць драматургам, які ўдасканальвае тэксты аўтараў-шведаў?**

**ДП:** Па-першае, шведскую мову да канца я не вывучыў, бо вывучыць мову да канца немагчыма... Вывучэнне мовы – гэта працэс. Я наогул прыхільнік метаду вучыцца, робячы нешта канкрэтнае. Старэйшыя калегі на працы казалі, што я – першы імігрант, які стаў працаваць на Шведскім радыё ў такой якраз якасці. Як бы там ні было, ніхто не робіць мне скідку на тое, што шведская мова – не мая родная.

**РС: Хто наогул слухае радыёп’есы сёння? Мне здаецца, што гэтая форма мастацтва была актуальная, калі яшчэ тэлевізія не была такая папулярная...**

**ДП:** У Швецыі з гэтым добра. Радыёканал, для якога я ў асноўным працую, мае больш за два мільёны слухачоў за тыдзень. У краіне, дзе жывуць дзевяць мільёнаў чалавек, гэта вельмі добрыя лічбы. Ды радыё ўвесь час мяняецца, і нашы п’есы слухаюць не толькі ў жывым эфіры, але і на іншых платформах. У інтэрнэце, з аплікацый на мабільных тэлефонах... Адну з п’есаў, якую я напісаў колькі год таму (паставіў яе не я, а іншы рэжысёр), загрузілі амаль 80 тысяч чалавек. Гэта, калі не ўлічваць FM...

**РС: Назаві гэтую п’есу, чаго ўжо хавацца...**

**ДП:** Гэта “Путч”, яна распавядае пра “жнівеньскі путч” у Маскве ў 1991 годзе...

**РС: Як выглядае профіль вашага слухача?**

**ДП:** Роскід па ўзросце слухачоў вельмі вялікі. У нас ёсць секцыя, якая працуе з радыёдрамай для дзяцей ад 9 гадоў, але доля насельніцтва ва ўзросце старэйшым за 82 гады ў Швецыі таксама не малая. Большасць слухачоў, калі я правільна разумею, – гэта жанчыны і асобы старэйшыя за 50 гадоў...

**РС: А што ты рабіў на пачатку лютага ў Празе?**

**ДП:** Я працаваў на Чэшскім радыё, дзе ставіў кароткую п’есу, дыялог, які сам і напісаў. Спачатку яны набылі п’есу, а потым запрасілі мяне паставіць яе.


Барыс Гарэцкі (Courtesy Photo)

**РС: Колькі ў сярэднім трывае радыёп’еса?**

**ДП:** На Чэшскім радыё мы працавалі над пастаноўкай у фармаце 15–20 хвілін. У Швецыі на FM – паўгадзіны або гадзіна, а калі маюцца на ўвазе серыялы, дык адна серыя трывае да 15 хвілін.

**РС: Скажы цяпер колькі словаў пра свае занятківі па-за радыё.**

**ДП:** Часам пішу артыкулы. Супрацоўнічаю з газетай Expressen, адной з чатырох агульнанацыянальных штодзённых газет у Швецыі. У пазамінулым годзе выйшла пашведску ў маім перакладзе кніга вершаў беларускага рускамоўнага паэта Дзмітрыя Строцава. Кніга была вельмі цёпла ўспрынятая крытыкай. На беларускую мову я пераклаў шведскую паэтку Атэну Фарухсад. Гэтая кніжка выйшла ў выдавецтве “Крок” у Тэрнопалі ва Украіне. Яшчэ пераклаў на беларускую дзіцячую кніжку вядомай шведскай пісьменніцы Эвы Сусы “Снежны чалавек у Мінску”. Яна напісала гэтую кніжку спецыяльна для беларускіх дзетак.

**РС: Калісьці ты згадваў Нільса Хокансана, шведа, які ўзяўся вывучаць беларускую мову. Ён яе ўжо вывучыў?**

**ДП:** Пакуль што не. Апошнім часам ён засяродзіўся на ўласнай літаратурнай працы. У яго выйшаў другі раман у буйным шведскім выдавецтве “Albert Bonniers”. Ён і яшчэ некалькі чалавек маюць невялікае выдавецтва. Нейкі час таму яны перавыдалі стары пераклад “Кар’еру” Васіля Быкава – першую кніжку Быкава, якая выйшла ў Швецыі, недзе напрыканцы 1980-х. Яны перагледзелі той пераклад і зрабілі новае выданне.

**Ян Максімюк, “Радыё Свабода”**

навіны

## 133 ГАДЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ФРАНЦІШКА АЛЯХНОВІЧА

9 сакавіка спектаклем “Цень думкі нашай” беларусы Вільні ўшанавалі памяць пра аднаго з творцаў “навейшага беларускага тэатра”.



Вядомы беларускі драматург, актор і рэжысёр, адзін з творцаў “навейшага беларускага тэатра” Францішак Аляховіч нарадзіўся 9 сакавіка 1883 года ў Вільні. Таксама працаваў у Менску і Віцебску. Трапіў у лагеры Салавецкіх астравоў, пасля чаго напісаў першую ў свеце кнігу пра сталінскія лагеры “У кіпцюрах ГПУ”. Са спектаклем паводле драмы “Цені” выступілі артысты Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа з Віцебска.

**Яраслаў Іванюк, “Польскае Радыё”**

## САКАВІК – МЕСЯЦ РЫШАРДА КАПУСЦІНСКАГА

У Пінску пачаліся мерапрыемствы, прымеркаваныя да 85-годдзя сусветна вядомага земляка, польскага пісьменніка і журналіста Рышарда Капусцінскага (1932–2007).

Імпрэзы будуць адбывацца ва ўстановах адукацыі і культуры.

У Пінску на доме, дзе прайшло дзяцінства Капусцінскага, усталяваная мемарыяльная шыльда, а летась мясцовыя ўлады прынялі рашэнне надаць адной з вуліц Пінска імя вядомага земляка.

**Пятро Савіч, “Беларускае Радыё Рацыя”**

гутарка

# Мікалай Халезін: “У нас ёсць свая краіна, але няма сваёй дзяржавы”

Спектакль Беларускага Свабоднага тэатра Burning Doors стаў сёлета лаўрэатам брытанскай нацыянальнай тэатральнай прэміі Offie’2017 у намінацыі “Найлепшы ансамбль”.



Беларускі Свабодны тэатр быў адзіным калектывам, асноўная база якога знаходзіцца па-за Вялікабрытаніяй, які здабыў гэткі прыз. Гэта таксама быў адзіны спектакль, які выконваўся не на ангельскай мове. Журы конкурсу ацэньвала 400 спектакляў. У студзені спектакль Свабоднага тэатра “Кароль Лір” увайшоў у дзясятку галоўных тэатральных падзеяў года ў Чыкага. З нагоды атрымання прэміі мы пагаварылі з Мікалаем Халезіным.

**Сяргей Шупа: Гэта ўжо не першы поспех вашага тэатра на Захадзе. Скажыце, у чым ваш сакрэт?**

**Мікалай Халезін:** З аднаго боку, няспыннае развіццё, і не толькі ў прафесійнай тэатральнай сферы, але і ў розных іншых: у сацыяльнай, палітычнай, эканамічнай – гэта дае больш шырокі гарызонт бачання. З другога, мабыць, прынцыповасць у выказванні – калі ты кажаш тое, што думаеш, нягледзячы на асяроддзе, якое табе супраціўляецца. Закладзены тут драматургічны канфлікт надзвычай прадукцыйны для творчасці. Але напэўна ўсё ж галоўнае ў поспеху – гэта адкрытасць да любой тэмы, уключаючы табу. Нашы пікі поспеху супадалі са спектаклямі, тэмы якіх эмацыйна білі не толькі ў грамадства, але і ў нас саміх. Толькі ў гэтым выпадку цябе разумее і табе суперажывае зала ў любым пункце свету.

**СШ: Як уплываюць на вашу творчасць падзеі ў Беларусі? У свеце?**

**МХ:** Усе нашы спектаклі пра сённяшні дзень, але мы спрабуем зрабіць гэтую размову не газетнай, а прыўнесці ў яе яскравую мастацкую вобразнасць. Плюс інавацыйнасць, якая прыцягвае не толькі гледачоў, але і прадстаўнікоў індустрыі. Пераважная тэма нашых тэатральных даследаванняў – Беларусь. Мы жывем у цяжкі час, але гэта дае велізарную колькасць падставаў для творчасці. Перыяды супрацьстаяння ў грамадстве – гэта мноства гісторый: вялікай любові, нараджэння герояў, здрадаў, праявы мужнасці... Яны цікавыя ў любой краіне свету, аснова чалавечай сутнасці ўсюды аднолькавая.

**СШ: Што азначае для вас цяперашні поспех?**

**МХ:** Ніякіх адчувальных дывідэндаў тэатр ад гэтых поспехаў не атрымае. У нас ёсць свая краіна, але ў нас няма сваёй дзяржавы. Той, якая магла б адэкватна ацаніць карысць для беларускага грамадства, якую прыносім мы. Але ёсць відавочны плюс для тых, хто ідзе за намі. Ім будзе лягчэй, бо мы стварылі чарговыя прэцэдэнты, калі такія сур’ёзныя краіны, як ЗША і Вялікабрытанія прынялі тэатр Беларусі не як экзотыку з Усходняй Еўропы, а на роўных, як творчую адзінку, здольную спаборнічаць з найлепшымі тэатральнымі калектывамі сваіх краін.

**Сяргей Шупа, “Радыё Свабода”**

навіны

## Выйшла ў свет “Гісторыя беларусаў Падляшша”

Як кажа прафесар Алег Латышонак, суаўтар і рэдактар кнігі, да яе напісання падштурхнулі сябры яб’яднання бацькоў, дзеці якіх вывучаюць беларускую мову, “АБ-БА”.



Кніга скіраваная найперш на беларусаў у Польшчы, але выйшла па-польску: “Па-беларуску не вельмі шмат людзей чытае, а тым больш гэта для ўсіх, хто зацікавіцца гісторыяй беларусаў. Вельмі багата ілюстрацыйнага матэрыялу, бо ўсе любяць паглядзець ілюстрацыі”.

Больш за 500 старонак кнігі “Гісторыя беларусаў Падляшша” ахоплівае перыяд ад зыходу ледавіка – па перыяд найноўшай гісторыі, кажа прафесар Латышонак.

Тыраж – адна тысяча асобнікаў. Плануецца пераклад кнігі на беларускую мову і выданне яе ў Беларусі. Аўтарамі з’яўляюцца сябры Беларускага гістарычнага таварыства ў Польшчы.

**Радэк Дамброўскі, “Беларускае Радыё Рацыя”**

## Беларуска вылучаная на пасаду генсакратара АБСЕ

Пастаяннага прадстаўніка Беларусі пры Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе Алену Купчыну вылучылі на пасаду генсакратара гэтай арганізацыі.

Паўнамоцтвы цяперашняга генсакратара італьянца Ламберта Дзаньера завяршаюцца 30 чэрвеня 2017 года.

Алена Купчына доўгі час працавала намесніцай міністра замежных спраў Беларусі. Як падкрэсліў начальнік упраўлення інфармацыі — прэс-сакратар МЗС Беларусі Дзмітрый Міронччык, яна прымала самы непасрэдны ўдзел у рэалізацыі знешняй палітыкі нашай краіны, накіраванай на ўмацаванне бяспекі і стабільнасці ў Еўропе.

Прэс-сакратар МЗС паведаміў, што 14 сакавіка ў Вене прайшлі першыя слуханні прэтэндэнтаў на пасаду генсакратара АБСЕ. Кандыдаты прадставілі пастаянным прадстаўнікам дзяржаў-удзельніц АБСЕ свае прыярытэты.

**euroradio.fm**




навіны

## “Genius Loci”: Чэслаў Немэн – геній са Старых Васілішак

Тэлежурналістка і сцэнарыстка тэлефільма “Гэты дзіўны свет... Чэслаў Немэн” Вера Савіна стала ініцыятарам новага выдавецкага праекту “Genius Loci”.

Прэзентацыя праекта 2 сакавіка адбылася ў сталічнай галерэі “Дом карцін”.

Вера Савіна падзялілася развагамі пра задуму “Genius Loci”: “Мы бачым высакародны народны рух, накіраваны на вяртанне імёнаў нашых славутых землякоў. Гэта адчуваецца, калі бываеш у вёсках і мястэчках, адкуль яны ішлі ў вялікі свет, у школьных і краязнаўчых музеях. Тое ж можна сказаць і пра Чэслава Немэна, які пражыў у Беларусі 19 гадоў. Для яго гэта быў час, калі фармаваўся талент, калі закладаўся падмурак яго асобы. Чэслаў Немэн часта прыязджаў у родную вёску Старыя Васілішкі на Гродзеншчыну, калі бываў на гастролях. Разам з колам аматараў творчасці Чэслава Немэна мы звярнуліся да мясцовых уладаў з прапановай наконт стварэння музея Чэслава Немэна. У райвыканкаме нас падтрымалі – і музей пачаў сваё жыццё з напаўнення экспанатамі, звязанымі з жыццём самога Чэслава і сям’і Выджыцкіх. Цяпер музей у Старых Васілішках пераўтварыўся ў цэнтр прыцягнення прыхільнікаў творчасці Немэна з усяго свету: Беларусі, Польшчы, Літвы, Украіны, Расіі, і прымае да трох тысяч турыстаў на год. Папулярнасць музея падштурхнула нас да ідэі выдаць цыкл друкаваных буклетаў пад слоганам “Вернем Гісторыю з Эміграцыі!” Мне здаецца, што назва выдання цыклу “Genius Loci” адпавядае задуме – геній ці душа месца, які апякуецца яго жыхарамі”.

Дызайнер і фатограф выдання Віталь Раковіч адзначыў: “Цяпер у нас сабраная візуальная інфармацыя і тэксты прыкладна на 20 буклетаў. Альбомы будуць выдадзены на беларускай, польскай, рускай і англійскай мовах. Рыхтуюцца да выдання буклеты, прысвечаныя мастакам Язэпу Драздовічу, Раману Семашкевічу, Хаіму Суціну, Файбіш-Шрага Зарфіну, фатографу Бенедыкту Тышкевічу, апошняй уладальніцы сядзібы ў Суле, мецэнатцы Альжбеце Ленскай і іншым постацям нашай мінуўшчыны”.

Госця прэзентацыі, салістка гурта “Дзівасіл” Іна Перасецкая-Малаковіч, якая ўдзельнічала ў стварэнні музея, распавяла пра адкрыццё на гарышчы хаты Выджыцкіх унікальных знаходак, датычных да дзяцінства Чэсіка: “Там пад саломай знаходзілася шмат асабістых рэчаў будучага спевака – вучнёўскія сшыткі, ноты, якія ён перапісваў для аркестра, фрагменты фотастужак, з якіх потым зрабілі цікавыя здымкі”.

**Паводле Анатоля Мяльгуя, “Новы Час”**

**гутарка**

# У МАСКВЕ ВЫЙШАЎ ПАДРУЧНІК "16+" ДЛЯ САМАНАВУЧАННЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Беларускі лінгвіст Антон Сомін ладзіць у Маскве моўныя курсы, на якія можна трапіць выключна паводле конкурснага адбору, заснаваў пяць гадоў таму ў Мінску "Фестываль моў", а таксама выдае ў Расіі падручнік па самавывучэнні беларускай мовы, які можна набыць толькі дасягнуўшы 16 гадоў.




**– Чаму расейцы лічаць мову надта інтымнай і дазваляюць вывучаць яе толькі з 16 гадоў?**

– У нас таксама прынялі закон, які абавязвае рабіць узроставыя адзнакі. У падручніку ёсць згадкі пра алкагольныя напоі, а гэту інфармацыю ў Расіі нельга ведаць дзецям да 16. Можна было правесці экспертызу, і падручнік меў бы "12+", але гэта дарага каштуе. Таму выдавецтва, якое займалася падручнікам, ставіць такія пазнакі нават на дапаможнік па граматыцы.

**– Дзіўны выбар для занятку ў Маскве – ствараць падручнік для вывучэння мовы.**

– Я займаўся мовай як навуковец, але не лічыў сябе галоўным спецыялістам, бо жыў у Маскве і мову амаль не практыкаваў. Але калі падумаў, што за падручнік можа сесці нехта, каму беларуская насамрэч абыякавая, вырашыў пагадзіцца. Бачыў, што ў гэтай серыі ёсць вельмі добрыя падручнікі, а ёсць і зусім наадварот.

**– Чым ён адрозніваецца ад іншых падручнікаў?**

– Я вырашыў, што два лагеры – афіцыйны і адтарашкевіцы – трэба прымірыць, і стварыў падручнік, дзе адначасова ёсць інфармацыя пра абодва варыянты. Агулам гэта тыповы падручнік для саманавучання, дзе ёсць дыялогі, практыкаванні на лексіку, маўленне. Асобнай гісторыяй сталася назва. Я кансультаваўся з рознымі беларускімі лінгвістамі, і мы прыйшлі да высновы, што лепш ужыць "падручнік для саманавучання", а ўнутры напісаць "самавучыцель".

**– Як мяркуеш, беларусы змогуць пераадолець гэтую моўную падвоенасць? Альбо наадварот, яна карысна ўплывае на грамадства і захаванне мовы?**

– У нас існуе супрацьстаянне – беларуская мова супраць рускай і наадварот. Да гэтага дадаюцца дыялекты і трасянка ці, калі казаць больш паліткарэктна, беларускі варыянт рускай мовы. І ў дадатак у нас ёсць шмат рускамоўных і няшмат беларускамоўных, сярод якіх ідзе супрацьстаянне – ці трэба пісаць мяккі знак, трэба насіць майткі альбо трусы – не толькі арфаграфія, але і лексіка. Здаецца, гэта дзейнічае не на карысць беларускай мовы. Калі мне прапанавалі пісаць падручнік, я якраз пісаў дысертацыю. У выніку прайшло пяць гадоў, і падручнік ёсць, а дысертацыі няма.

**– Напэўна, гэта быў нялёгкі выбар: адкласці акадэмічныя дасягненні і магчымасці на карысць развіцця і папулярызацыі мовы. А якая была тэма дысертацыі?**

– Тэма дысертацыі тычыцца той самай падвоенасці мовы. У нас ёсць дзве групы беларусаў, якія лічаць, што ведаюць мову, а мова другой – занадта русіфікаваная, наватворная ці сінтэтычная. Гэта не дае зрабіць адзіную беларускамоўную супольнасць, вядзе не да развіцця мовы, але да стагнацыі. Такая сітуацыя можа выправіцца, толькі калі мова стане больш ужывацца, сама адрэгулюе сябе. Калі захочуць, каб засталіся трусы – то застануцца, калі не – то майткі. Іначай словы разыдуцца па значэнні. Як вёска і "дзярэўня". Бо вёска – гэта вёска, а "дзярэўня" – неадукаваныя людзі. Калі мова стане больш ужыванай, то яна нармалізуецца.

**– Чым цяпер займаешся ў Маскве?**

– Пішу навуковыя артыкулы і хачу дапісаць дысертацыю. Нядаўна з калегамі выдалі найноўшы слоўнік мовы інтэрнэту. Гэта навуковая праца, дзе адлюстроўваецца гісторыя рускамоўнага інтэрнэту з 90-х да сучаснасці. Гэта не спроба закінуць на паперу найноўшыя мемы, бо тады ён праз некалькі месяцаў будзе неактуальны. Гэта спроба апісаць розныя этапы развіцця інтэрнэту: дзяцінства 90-х, мова падонкаў – 2000-х. Таксама выкладаю ў двух універсітэтах розныя лінгвістычныя прадметы. Яшчэ выкладаў беларускую мову ў праекце "Школа моў суседзяў краін СНД", арганізоўваў "Фестываль моў" у Маскве і Мінску, а таксама алімпіяды па лінгвістыцы.

**– Конкурс на курсы беларускай мовы ў Маскве – два з паловай чалавекі на месца!**

– У парку Горкага ў Маскве праводзяць адукацыйную праграму – "Школа моў мігрантаў". На пачатку было 4 мовы: таджыкская, казахская, малдаўская і кіргізская. Праект карыстаўся попытам, і арганізатарка вырашыла пашырыць яго на ўсе 10 моў краін СНД. Заявак на курс было столькі, што нават прыйшлося адбіраць удзельнікаў на конкурснай аснове паводле матывацыйных лістоў. Быў прыемна ўражаны, што самай запатрабаванай была ўкраінская, прытым, што ішоў 2015 год! Што тычыцца беларускай – матывацыйныя лісты былі цудоўныя. Большасць удзельнікаў мелі продкаў з Беларусі, праводзілі лета ў беларускіх вёсках з бабулямі і дзядулямі, памяталі мову, якая ім падабалася. Некалькі чалавек мелі патрэбу ў прафесійнай дзейнасці. Адна дзяўчына займалася фальклорам памежжа. Іншая дзяўчына вырашыла пайсці на курсы, бо прачытала, што ў Беларусі мала людзей размаўляе па-беларуску. Якраз тады я амаль скончыў падручнік, і на той групе выпрабавалі амаль усе заняткі, выправілі памылкі і зрабілі змены. Спадзяюся, што ў наступным годзе курсы працягнуцца, бо ахвотных да вывучэння мовы шмат. За 4 месяцы мы правялі 16 заняткаў па 2 гадзіны. На апошнім занятку мы нават гулялі ў "капялюш" і тлумачылі словы па-беларуску, нават АНТ зрабіла пра гэта сюжэт. Удзельнікі курсаў дагэтуль пішуць мне лісты па-беларуску.

**– Цябе не бянтэжыла, што беларус прыехаў у Маскву навучаць замежнікаў беларускай мове?**

– Не, наадварот. Я пастаянна карыстаўся тым, што валодаю беларускай мовай. Выкладаў беларускую на моўных фестывалях у Маскве і Пецярбургу. Для алімпіяды па лінгвістыцы склаў некалькі задач па беларускай мове. Прыемна, калі масквічы паўтараюць за табой па-беларуску і стараюцца як мага лепш вымавіць, каб быць падобнымі да цябе!

**– Гэтая любоў да беларушчыны з дзяцінства?**

– У школе я не надта любіў беларускую мову, увогуле лічыў яе не вельмі патрэбнай. Калі б нехта сказаў, што я напішу праз 10 год падручнік, я бы проста пасмяяўся.

**– Чаму ты перабраўся ў Маскву?**

– Я не ведаў, куды паступаць пасля навучання. Пасля 10 класа я трапіў у беларускую каманду ў падмаскоўную моўную школу "Масковія" для школьнікаў, якія вывучаюць рускую мову як замежную. Там адчуў прагу да лінгвістыкі. Перакладчыкам быць не хацеў, бо цікавіла праграмаванне, але праграмістам таксама быць не хацелася. У адной з ВНУ знайшлі спецыяльнасць "тэарэтычная і прыкладная лінгвістыка" – там ты вучыш некалькі замежных моў, мовазнаўства і вучышся ствараць праграмы, якія будуць працаваць з мовамі. Праблема была ў тым, што ВНУ знаходзілася ў Маскве, а мне зусім не хацелася туды ехаць жыць. Але цяпер я не шкадую, што на "выдатна" здаў іспыт у РГДУ, бо засвоеныя там веды цяпер магу выкарыстоўваць на карысць Беларусі...

**– Ці змянілася за 10 гадоў тваё стаўленне да Масквы?**

– Я прызвычаіўся, але яна так і не сталася маім домам. Безумоўна, там магчымасцяў болей, чым у Мінску. З часам згубіліся сувязі з мінскімі сябрамі, завязаліся прафесійныя сувязі. У Мінск заўжды можна вярнуцца, а таксама перастала грызці сумленне, што я кінуў Беларусь, бо з'явіліся справы, карысныя для дома.

**– А грамадзянская пазіцыя?**

– Я пачаў хадзіць на мітынгі ў Маскве даволі даўно, бо не магу спакойна глядзець на тое, што адбываецца ў Расіі. Хадзіў на акцыі супраць несумленных выбараў, супраць вайны ва Украіне, а таксама цяпер у падтрымку тралейбусаў – у Маскве найбуйнейшая сетка тралейбусаў у свеце, а ў дадатак гэты горад не з самым чыстым паветрам. Дадатковыя аўтобусы дададуць яшчэ бруду.

**– Ці падобныя мітынгі да таго, што адбываецца ў Мінску?**

– Так, тут усё падобнае да нас. І "касманаўты", і аўтазакі. Калі гэта пачалося некалькі гадоў таму, людзі хваляваліся, ці будуць біць і саджаць. Калі нешта адбываецца без затрыманняў, людзі натхняюцца і падаецца, што ёсць надзея. І вядома, калі тут праходзілі мітынгі, я пачуваўся дасведчаным мітынгоўцам. Калі, напрыклад, саджалі Навальнага, людзі выйшлі на несанкцыянаваны мітынг і ўразіліся, што могуць нешта зрабіць. Розніца мясцовых акцый ад беларускіх у тым, што ў Расіі шмат людзей, якія заступаюцца за ўлады, нават з кулакамі. Такога ў Мінску я не бачыў.

**Зміцер Хведарук, ІА, "Наша Ніва"**

Дзень Волі

# АКЦЫІ САЛІДАРНАСЦІ ДА ДНЯ ВОЛІ Ў НЬЮ-ЁРКУ І МАЯМІ

Сябры Беларуска-Амерыканскага Задзіночання ў Паўднёвай Фларыдзе ініцыявалі і прынялі ўдзел у акцыі пратэсту супраць палітычных пераследаў у Беларусі, што адбылася 24 сакавіка ў Нью-Ёрку, а таксама правялі 25 сакавіка ўласную акцыю, прысвечаную Дню Волі, у Маямі.







Акцыя ў Нью-Ёрку сабрала каля 70 беларусаў з Нью-Ёрку, Маямі, Нью-Джэрсі і Філадэльфіі. Удзельнікі разгарнулі пікет каля будынка Генеральнага консульства Беларусі ў знак пратэсту супраць палітычных арыштаў, затрыманняў і падатку на беспрацоўе ў Беларусі.

Старшыня аддзела БАЗА ў Паўднёвай Фларыдзе Сяргей Волкаў выступіў з прамовай, у якой заклікаў беларускія ўлады спыніць палітычныя рэпрэсіі ў краіне, а таксама адзначыў неабходнасць гуртавання беларусаў у супрацьстаянні аўтарытарнаму рэжыму ў Беларусі.

Акцыя ў Маямі мела фармат вулічнага шэсця і сабрала беларусаў з розных куткоў Фларыды. Удзельнікі прайшлі па галоўнай вуліцы раёна Сані-Айлес з патрабаваннямі свабоды і дэмакратычных пераменаў, выканання правоў чалавека, а таксама вызвалення арыштаваных па палітычных матывах ў Беларусі. Шматлікія сведкі акцыі выказалі словы падтрымкі і салідарнасці беларусам.

**"Беларуская прастора ў Амерыцы"**



# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ВАРШАВЕ

25 сакавіка ў Варшаве з нагоды Дня Волі адбыўся мітынг Салідарнасці. Удзел у ім брала каля сотні чалавек.

Акцыя пачалася ля помніка Тадэвушу Касцюшку, адтуль шэсце прайшло праз цэнтр Варшавы да помніка Адаму Міцкевічу, дзе адбыўся мітынг.

Падчас яго Зянон Пазняк узгадваў гісторыю стварэння БНР і рэзка крытыкаваў беларускія ўлады, у тым ліку затрыманні і збіццё пратэстоўцаў і актывістаў у Беларусі.

Арганізатары, сярод іншага, заклікалі неабыякавых людзей пералічваць грошы на рахунак Беларускага дома для дапамогі рэпрэсаваным. Алесь Зарэмбюк запэўніў, што за кожны злоты будзе справаздача. Напрыканцы мітынгу людзі праспявалі "Магутны Божа".

Увечары ў Беларускім доме ў Варшаве прайшоў канцэрт Касі Камоцкай.

**Аксана Рудовіч, "Наша Ніва"**

# МІТЫНГ У ФІЛАДЭЛЬФІІ

25 сакавіка ў Філадэльфіі каля арт-музея сабралася больш за 30 чалавек, каб падтрымаць усіх арыштаваных і затрыманых у Беларусі.

Арт-музей збірае вялікую колькасць людзей і турыстаў з розных краін свету. Галоўнай мэтай мітынгу, акрамя салідарнасці, было данесці інфармацыю аб праблемах беларускага рэжыму да большай колькасці людзей.

**Беларуска-амерыканскае задзіночанне (Нью-Ёрк)**




# БЕЛАРУСЫ НЬЮ-ЁРКА НА ДЗЕНЬ ВОЛІ ЗЛАДЗІЛІ ВЕЧАРЫНУ Ў БАРЫ DROM

Для амерыканскіх беларусаў святкаванне Дня Волі ў гэтым годзе было азмрочана навінамі пра брутальныя затрыманні пасля мітынгаў недармаедаў 15 сакавіка і непасрэдна перад 25 сакавіка.

25 сакавіка святкаванне 99-х угодкаў абвешчання незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі адзначалася ва ўсіх беларускіх асяродках у ЗША і ў Канадзе. На святкаванні, ладжаным БАЗ "Пагоня", Сяржук Сокалаў-Воюш прадставіў сваю новую песню "Годзе! До!", якую ўдзельнікі святкавання праспявалі разам з ім. У нядзелю, 26 сакавіка, у беларускіх цэрквах адбыўся малебен за Незалежнасць Беларусі і за беларускі народ. Пазней адбыўся яшчэ адзін шматлюдны мітынг у Нью-Ёрку на Юніян-сквер.

Вечарам 26 сакавіка беларусы і прыхільнікі беларускай незалежнасці сабраліся ў бары DROM на вечарыну, арганізаваную праектам Ганны Шарко "Дзед Барадзед" пры падтрымцы БАЗ "Пагоня". Гэта той самы бар і той самы праект, дзякуючы якому чатыры месяцы таму адбыўся канцэрт Лявона Вольскага ў Нью-Ёрку.

Аляксей Сапрыкін, госць з Мінска, па-майстэрску трымаў увагу прысутных прэзентацыяй праектаў культурніцкай пляцоўкі "Арт-Сядзіба" і вясёлай камандннай гульнёй па беларускай тэматыцы.

З прывітаннямі выступілі старшыня БАЗ "Пагоня" Віталь Зайка і грамадскі дзеяч Франак Вячорка. Музычная праграма пачалася з дэбюту дуэта Пятра Барцэвіча і Аляксандра Хацкевіча. У выкананні дуэта прагучалі некалькі папулярных твораў з праектаў Лявона Вольскага.

Наступным на сцэне быў непаўторны Пётр Клюеў. Яго эмацыйны спеў падбадзёрыў прысутных і натхніў на рамантыку і танцы. Вечарына адбывалася ў сяброўскай атмасферы. Валеры Клімовіч узняўся на сцэну і падзяліўся сваімі разважаннямі пра жыццё і свабоду. Ён выканаў пару песняў пад гітару.

У якасці сюрпрызу Пётр Клюеў выканаў вакалам без акампанементу песню на словы Генадзя Бураўкіна "Зачарованая". Здавалася, што кожны спяваў разам з ім. На заканчэнне ўсе прысутныя стоячы праспявалі беларускі марш "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Але і на гэтым святкаванне не скончылася – дадаліся іншыя патрыятычныя песні ў супольным выкананні. На развітанне гучала ўрачыстае "Жыве Беларусь!".

**Сяргей Трыгубовіч, "Наша Ніва"**

гутарка

# Аляксандр Навумаў: “Веру, што Скарына быў у Венецыі і шмат чаму тут навучыўся”

Польскі і італьянскі навуковец, прафесар Венецыянскага ўніверсітэта Ка Фоскары Аляксандр Навумаў, аўтар навуковых прац пра Францішка Скарыну, расказаў пра сваю гіпотэзу, паводле якой Скарына сустракаўся ў Венецыі з сербскім першадрукаром Божыдарам Вукавічам.



**Сяргей Абламейка: Ці ў сённяшняй Італіі наогул нехта цікавіцца постаццю Скарыны?**

**Аляксандр Навумаў:** Асаблівага зацікаўлення няма. У Падуі вывучалі як частку гісторыі свайго ўніверсітэта, але гэта было раней. Ёсць дасведчаная даследчыца Марыя Чэчыльля Геты, якая пісала пра гісторыю з прыбыццём Скарыны ў Падую, з ягонымі экзаменамі і абаронай паводле дакументаў і біскупскага капітулу, і ўніверсітэта. Сёлета пачынаюць трохуцікавіцца, бо спаўняецца 500 гадоў Скарынавай Біблії і 500 гадоў пратэстантызму, а некаторыя славісты спрабуюць звязаць Скарыну з пратэстанцтвам.

**СА: Як вы думаеце, ці бываў Скарына ў Венецыі?**

**АН:** Для таго, хто прыехаў у Падую, не прыехаць у Венецыю – немагчыма. Але доказаў няма. Мне так думалася, што ён прыязджаў сюды, завязаў кантакт з грэка-славянскім брацтвам, можа нават сустрэўся з Божыдарам Вукавічам. І Францыск, і Божыдар пачалі сваю дзейнасць прыблізна ў адны гады... Скарына ў 1517 годзе, Божыдар у 1519-м... Скарына выдае “Малую падарожную кніжку”, а Вукавіч выдае “Кнігу за путніка”. У іх агульныя ідэі што да фармату кніжак – “васьмёркі”, кішэннага фармату. Тут мы бачым аднолькавыя рашэнні і ідэі, каб не толькі працаваць для царквы і служыць царкве, а каб і дапамагаць людзям, якія ў вандроўках, у дыяспары...

**СА: Даводзілася чуць версію, што каля 1512 года студэнты Падуанскага ўніверсітэта жылі ў Венецыі, бо ў Падуі была эпідэмія чумы.**

**АН:** Не столькі чума, колькі вайна. Яшчэ за некалькі месяцаў да прыезду Скарыны ішлі ваенныя дзеянні, і Падуя, была ў поставеннай сітуацыі. Універсітэт, фактычна, не дзейнічаў. Скарына не вучыўся ў Падуі, ён прыехаў здаваць доктарскія экзамены.

**СА: Якую са сваіх прац пра Скарыну вы лічыце галоўнай?**

**АН:** Гэта найперш збор твораў Скарыны на польскай мове. Я са сваёй калегай Марыёлай Валь пераклаў усе вядомыя тэксты, якія выйшлі з-пад пяра Скарыны, на польскую мову і выдаў адным томам. Гэта самы поўны ў свеце збор твораў Скарыны з каментарамі, навуковым апаратам і г.д.

**СА: Ці будуць яшчэ знойдзеныя новыя дакументы пра Скарыну ў той жа Італіі або ў Польшчы ці яшчэ дзе?**

**АН:** У Падуі даволі пільна ўсё прагледжана. Венецыянскі архіў дрэнна вывучаны, могуць быць знойдзеныя дакументы, якія адкрыюць новыя старонкі выдавецкай справы... Але каб асабіста пра Скарыну – не веру. Новых дакументаў няма дзе шукаць.

**СА: Айцец Аляксандр Надсан з Лондана параўноўваў тэксты Скарыны і іх перавыданні Віленскім праваслаўным брацтвам праз паўстагоддзя і яшчэ пазней. Надсан знайшоў, што пры перавыданнях скарынаўскія пераклады рэдагаваліся так, каб з іх былі прыбраныя каталіцкія догматы. Напрошваецца выснова, што Скарына дзейнічаў у кантэксце Фларэнцкай уніі 1439 года.**

**АН:** Скарына пра Фларэнцкую унію нічога не казаў, але агулам – так. Надсан – добры даследчык. Скарына выходзіць з рамак праваслаўнай традыцыі. Думаю, што ён хацеў зрабіць праваслаўную культуру больш дынамічнай, так што спроба шукаць сувязі з заходняй багаслоўскай традыцыяй у Скарыны пэўна ёсць. Некаторыя выданні Скарыны пасля перапісваліся ад рукі, і там кожны па-свойму перапрацоўваў тэкст. Асабліва тыя рэнесансныя моманты, калі Скарына піша пра сябе, маўляў, доктар у лекарскіх навуках... Людзі, якія да такога не прывыклі, выкідалі тыя мясціны. Яго, дарэчы, абвінавачвалі і ў гусіцтве. Наогул, я думаю, што найбольш поўна пра Скарыну напісаў Яўгені Немiроўскі. Ён сабраў амаль усё ў сваёй манаграфіі “Францыск Скарына”.

**Сяргей Абламейка, “Радыё Свабода”**

зварот

# Зварот з нагоды 500-годдзя беларускага кнігадрукавання

Зварот да грамадскіх арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў Беларусі, бізнесоўцаў і патэнцыйных фундатараў, да ўсіх суайчыннікаў у Беларусі і за мяжой.

Кніга для беларусаў, як і для кожнага народа, мела і мае вялікае цывілізацыйнае значэнне. Больш за 1000 гадоў яна захоўвае мудрасць былых пакаленняў і гуртуе нас як нацыю. Палову гэтага часу кніга нашых старажытных княстваў (Полацкага, Тураўскага, Смаленскага) і Вялікага Княства Літоўскага была рукапіснай. Яна стала вялікім здабыткам духоўнай культуры нашага народа, вядомым і шанаваным ва ўсім свеце.

6 жніўня 1517 года Францішак Скарына адгарнуў новую старонку нашай культуры, зрабіўшы кнігу даступнай шырокаму колу грамадства (“паспалітаму люду”). У чэшскай Празе ён надрукаваў першую Біблію на роднай мове. Гэта была чацвёртая ў свеце друкаваная Біблія на жывой мове народа (пасля нямецкай, італьянскай і чэшскай). Выданні асветніка былі вяршыняй кнігадруку пачатку XVI стагоддзя і паставілі Вялікае Княства Літоўскае ў шэраг развітых краін тагачаснага свету.

З павагі да велізарнага ўкладу Францішка Скарыны ў справу айчыннага кнігадруку, напярэдадні 500-гадовага юбілею беларускай Бібліі Грамадскі аргкамітэт па правядзенні свята прапануе актывізаваць грамадскую дзейнасць у гэтым кірунку. Вось толькі некаторыя агульнанацыянальныя справы, якія мы можам зрабіць разам:

1. Працягнуць пошукі месца пахавання Францішка Скарыны ў Чэхіі.
2. Пашырыць ведамасць свята праз размяшчэнне сімволікі 500-годдзя беларускага кнігадрукавання на білбордах, расцяжках, грамадскім транспарце (аўтобусах, тралейбусах, трамваях, цягніках метрапалітэна).
3. Арганізаваць тэматычныя выставы прафесійных мастакоў.
4. Правесці конкурс на найлепшы літаратурны, мастацкі і музычны твор, прысвечаны Францішку Скарыну.
5. Па творах Францішка Скарыны, адаптаваных паводле сучаснага правапісу, зладзіць агульнанацыянальную дыктоўку.
6. Пачаць стварэнне мемарыяльнага шляху “Дарога Скарыны” з Полацка ў Вільню, пазначаючы яго памятнымі камянямі праз кожную “літоўскую” мілю (роўную прыблізна 15 км).
7. Распрацаваць турыстычны маршрут “Дарога Скарыны” ад Полацка да Вільні. Адкрыццё адзначыць міжнародным велапрабегам па гэтым маршруце.
8. Распрацаваць турыстычныя маршруты з Менска да Кракава, Прагі, Падуі і Познані.
9. Прымеркаваць да 500-годдзя беларускага кнігадруку штогадовы Менскі паўмарафон і накіраваць сабраныя падчас яго грашовыя сродкі на рэалізацыю канкрэтных культурных праектаў. Правесці аналагічныя забегі таксама па ўсёй краіне.
10. Прысвяціць нашаму вялікаму суайчынніку рыцарскі фэст і байкерскі злёт, наладзіўшы іх на Скарынавай радзіме — у Полацку.
11. Арганізаваць сямейныя чытанні і гутаркі з дзецьмі, прысвечаныя ўкладу Францішка Скарыны ў развіццё беларускай культуры.
12. У мастацкіх школах і студыях выяўленчага мастацтва па ўсёй краіне правесці конкурсы на тэму “Францішак Скарына і яго час”, па іх выніках зладзіць выставы.
13. Арганізаваць праз СМІ конкурсы сярод дзяцей і падлеткаў на лепшы верш пра Францішка Скарыну або нашу старадаўнюю дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае.
14. Прапанаваць настаўнікам для класнай гадзіны тэмы, прысвечаныя гісторыі беларускай кнігі і ўкладу Францішка Скарыны ў яе развіццё.
15. Правесці ў розных навучальных установах вікторыны, прысвечаныя гісторыі беларускай кнігі.
16. Зладзіць тэматычныя канферэнцыі, семінары, конкурсы навуковых работ, заахвочваючы школьнікаў і студэнтаў да навуковай дзейнасці ў сферы гісторыі і кнігазнаўства.
17. Выпусціць разнастайную сувенірную і іншую дробную прадукцыю (вымпелы, значкі, кніжныя закладкі, плакаты, кубкі, майкі, пакеты і г. д.) з выявамі і эмблематыкай, адпаведнымі юбілею; разаслаць святочныя паштоўкі да Дня друку ў школы і бібліятэкі.
18. Арганізаваць 6 жніўня ў Полацку і Менску парад паветраных шароў з адпаведнымі святу выявамі і сімволікай.
19. Ва ўсіх хрысціянскіх установах адзначыць 6 жніўня яшчэ і як дзень пачатку выдання Бібліі на нашай роднай мове. Цягам года ў цэрквах, касцёлах, рэфармацкіх храмах правесці тэматычныя мерапрыемствы.
20. Адзначаць 9 лістапада — дзень, калі Францішак Скарына ў Падуанскім універсітэце абараніў годнасць доктара медыцыны — як прафесійнае свята беларускіх медыкаў.
21. Праявіць іншыя ініцыятывы дзеля папулярызацыі імя і творчасці Скарыны, а таксама дасягненняў нашай культуры Залатога веку ў цэлым.
22. Як мага шырэй асвятляць ва ўсіх даступных СМІ юбілейныя імпрэзы, падкрэсліваючы веліч асобы Скарыны, яго еўрапейскі маштаб.

Галоўная ж прапанова — 500-годдзе заснавання беларускага кнігадрукавання адсвяткаваць усёй краінай 6 жніўня 2017 года. Гэтае свята павінна прыйсці ў кожны дом. Варта адзначыць яго віншаваннямі, сямейнымі ўрачыстасцямі, сяброўскімі імпрэзамі. Усе мы, незалежна ад таго, выпускаем кнігі ці чытаем іх, мусім святкаваць Дзень друку 6 жніўня, не чакаючы афіцыйнага прызнання гэтага свята. Права на гэта даў нам Францішак Скарына.

Тым не менш, разумеючы, што беларускія чыноўнікі павінны дзейнічаць у інтарэсах грамадства, трэба працягваць дыялог з дзяржаўнымі ўстановамі, звяртацца з прапановамі наўпрост да службоўцаў, каб яны таксама праяўлялі ініцыятыву з адказнасцю перад будучымі пакаленнямі. Годным чынам, у штодзённай працы на ніве культуры і адукацыі, правядзем год Францішка Скарыны ў Беларусі і свеце з надзеяй на лепшую і трывалую будучыню!

**Радзім Гарэцкі, акадэмік;**

**Арсень Ліс, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР 1986 года;**

**Анатоль Вярцінскі, паэт, заслужаны дзеяч культуры, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь;**

**Мікола Купава, сябра Беларускага саюза мастакоў;**

**Ганна Запартыка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва;**

**Мікола Савіцкі, прафесар, кандыдат эканамічных навук;**

**Ірына Багдановіч, дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат філалагічных навук;**

**Алесь Лявончык, лаўрэат Рэспубліканскага конкурсу, сябра Беларускага саюза тэатральных дзеячаў;**

**Зміцер Санько, галоўны рэдактар выдавецтва “Тэхналогія”.**

**навіны**

## НА ЛОНДАНСКІХ МОГІЛКАХ АСВЯЦІЛІ ПОМНІК НА МАГІЛЕ АЙЦА АЛЯКСАНДРА НАДСАНА

4 сакавіка на могілках св. Панкрата ў Лондане біскуп Глеб Ланчына і айцец Сяргей Стасевіч асвяцілі помнік на магіле айца Аляксандра Надсана. Памаліцца за светлую памяць айца сабраліся ягоныя сябры, вучні і вернікі з Брытаніі і Беларусі.

Скульптар Генадзь Лойка зрабіў бронзавы барэльеф і прапанаваў форму помніка, падобную да тых, што ён бачыў на гарадзейскіх могілках. На выяве айцец бласлаўляе нас скарынаўскай Бібліяй і крыжам.

Мы цешымся, што помнік айцу завершаны і спадзяемся, што гэтае месца стане адным з найважнейшых на мапе Лондана для ўсіх, каму дарагая ягоная памяць.

**Караліна Мацкевіч**




**in memoriam**

## ПАМЁР МІХАСЬ КАВЫЛЬ

У амерыканскім Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі) 6 красавіка памёр беларускі паэт Міхась Кавыль.



Пахаваюць Міхася Кавыля на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы.

Паэт Міхась Кавыль (сапраўднае імя — Язэп Лешчанка) нарадзіўся на Случчыне 1 снежня 1915 г. Скончыў Грэскую сямігодку. Вучыўся на пазашкольным аддзяленні Беларускага педагагічнага тэхнікума ў Мінску. Быў сябрам “Маладняка”. У 1933-м арыштаваны і асуджаны на 3 гады. Адбываў пакаранне на Далёкім Усходзе. Здолеў вызваліцца, потым жыў у Варонежы (у Беларусь было забаронена вяртацца), працаваў настаўнікам. Быў у Чырвонай арміі на фронце, трапіў у палон, быў вызвалены. Пад нямецкай акупацыяй жыў у Мінску, працаваў у аддзеле прапаганды.

3 лета 1944 г. на эміграцыі. Жыў у Германіі, Бельгіі. У 1950 г. выехаў у ЗША і пасяліўся ў Саўт-Рыверы, дзе быў вялікі асяродак беларусаў. У эміграцыі Кавыль выдаў зборнікі паэзіі “Ростань”, “Пад зорамі белымі”, “Цяжкія думы”, “Міжагнёўе”.

Пра свой пераезд у Амерыку Кавыль пісаў:

“Нябожчык айцец Мікалай Лапіцкі нагаварыў мяне ехаць у Амерыку. Прызнацца, мне не хацелася ехаць так далёка. У Нямеччыне ў мяне завяліся добрыя знаёмыя, ды наогул я цяжкі на пад’ём. Але ўсё паслухаў а. Лапіцкага і ў сакавіку 1950 г. апынуўся ў Саўт-Рыверы ў штаце Нью-Джэрсі. У Амерыцы давялося працаваць мне фізічна. Фізічная праца пайшла мне на карысць. Працаваў спачатку прыбіральнікам у фірме Сквіб, а пасля ткачом у месцы Баўнд-Брук. Працаваў таксама ў “Фордзе”, дзе закручваў гайкі, а тады больш за 20 гадоў скручваў дрот у Олдпрадукт уабер энд кейбэл кампані. Вядома скручвалі драты машыны, а я быў апаратарам гэтых машын. У 1980 г. пайшоў на пенсію. Першымі днямі, а нават месяцамі, думаў, здурэю ад бяздзейнасці”.

Міхась Кавыль быў адным з заснавальнікам і выдаўцом часопіса “Беларуская думка”, што выдаецца ў Саўт-Рыверы з 1960 года і па сённяшні дзень.

Жонка Міхася Кавыля Соня Лешчанка прыгадвала ў лістападзе 2016 года:

“Міхась ні разу не прыязджаў у Беларусь. Баяўся, што ў Сібір вышлюць. Ён у Сібіры быў тры гады. Толькі я прыязджала. Тры разы. Хоць яму і можна было ехаць, але ён баяўся”.

**“Наша Ніва”**

**in memoriam**

## ПАМЁР ВІТАЛЬ ЦЯРПІЦКІ

27 сакавіка ў Саўт-Рыверы памёр Віталь Цярпіцкі. Ён пражыў 94 гады.



Віталь Цярпіцкі нарадзіўся 3 лютага 1923 г. у Івянцы ў сям’і святара. Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Навагрудку, у чэрвені — у афіцэрскай школе БКА, з якой улетку 1944 г. апынуўся на эміграцыі. Лёс напачатку закінуў ва ўсходнюю Францыю. Там з сябрамі ўцёк да французскіх партызан, а потым у Італіі ваяваў з гітлераўцамі ў складзе брытанскай Арміі Андэрса.

Па дэмабілізацыі прыехаў у Брытанію, пражыў там чатыры гады, але пачуўшы, што ў амерыканскім Саўт-Рыверы арганізуецца беларускае жыццё, перабраўся з жонкай за акіян.

“Напрыканцы лістапада 1951 года я з жонкай Жэняй прыехаў у Саўт-Рывер. Тут ужо існавала першая беларуская царква, якая мясцілася ў невялікай зальцы. Царква была ўпрыгожана іконамі й царкоўнымі рэчамі, якія а. Лапіцкі прывёз з Нямеччыны. Вось тут я ўпершыню пазнаёміўся з а. Мікалаем, пра яго шмат чуў і чытаў. Зь першай сустрэчы завязалася ў нас цёплая прыязнь, а з ёй безліч планаў на будучыню. Мая жонка спаткала ў царкве шмат сваіх знаёмых з лагера Ватэнштэт у Нямеччыне, уключна з яго былым камендантам Святаславам Каўшом. Царкоўны староста Хведар Высоцкі, чалавек па характары дынамічны й напорысты, уцягнуў мяне з арганізацыйны камітэт, які меў заняцца справамі пабудовы новай царквы і залы”, – пісаў ён.

Галоўным сваім дасягненнем на эміграцыі Цярпіцкі лічыў дзейнасць у беларускім прыхodзе. У сярэдзіне 1960-х ён узначаліў будаўнічы камітэт па ўзвядзенні новай царквы. І менавіта шмат у чым дзякуючы яму і паплечнікам гэтая царква была збудаваная і аздобленая ўласнымі рукамі. Будавалі беларусы яе пяць гадоў.

Цярпіцкі нават выдаў кнігу “Гісторыя пабудовы царквы ў Саўт-Рыверы”, дзе падрабязна апісаў падзеі 1950 — 1975 гг. і пералічыў усіх, хто ахвяраваў грошы на царкву.

Пахаваюць Віталя Цярпіцкага ў суботу на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы.

**“Наша Ніва”**

## Беларускі каляндар памятных дат на красавік 2017 года

1 красавіка – 140 гадоў таму, у 1877-м, нарадзіўся Васіль Захарка, грамадска-палітычны дзеяч, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1928–1943).

1 красавіка – 90 гадоў таму, у 1927-м, нарадзіўся Лявон Белы, дысідэнт.

2 красавіка – 185 гадоў таму, у 1832-м, нарадзіўся Павел Баброўскі, гісторык, этнограф, краязнавец.

4 красавіка – 130 гадоў таму, у 1887-м, нарадзіўся Фабіян Шантыр, грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, пісьменнік, перакладчык.

9 красавіка – 100 гадоў таму, у 1917-м, нарадзіўся Мікола Вярба (сапр. Сільвановіч), пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе.

10 красавіка – 35 гадоў таму, у 1982-м, памерла Апалонія Савёнак (дзяв. Раткевіч), настаўніца, пісьменніца, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

11 красавіка – 80 гадоў таму, у 1937-м, памёр Цішка Гартны (сапр. Зміцер Жылуновіч), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, дзяржаўны дзеяч БССР, гісторык, пісьменнік, публіцыст.

16 красавіка – 185 гадоў таму, у 1832-м, нарадзіўся Альфрэд Ромер, мастак, скульптар, медальер, мастацтвазнавец, этнограф, удзельнік паўстання 1863–1864 гг.

18 красавіка – 190 гадоў таму, у 1827-м, нарадзіўся Якуб Гейштар, публіцыст, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг.

18 красавіка – 170 гадоў таму, у 1847-м, памёр Станіслаў Юндзіл, прыродазнавец, даследчык расліннага і жывёльнага свету Беларусі.

18 красавіка – 130 гадоў таму, у 1887-м, нарадзіўся Анатоль Дзяркач (сапр. Анатоль Зімiёнка), паэт, сатырык.

18 красавіка – 30 гадоў таму, у 1987-м, памёр Якуб Ермаловіч, пісьменнік.

19 красавіка – 110 гадоў таму, у 1907-м, нарадзіўся Рыгор Акулевіч, грамадска-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст, актывіст Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады і Таварыства Беларускай Школы, дзеяч эміграцыі ў Канадзе.

22 красавіка – 360 гадоў таму, у 1657-м, памёр Сільвестар Косаў, праваслаўны царкоўна-грамадскі дзеяч, пісьменнік, публіцыст.

26 красавіка – Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

27 красавіка – 95 гадоў таму, у 1922-м, нарадзілася Яўгенія Шастак, грамадскі дзеяч, лекар.

27 красавіка – 70 гадоў таму, у 1947-м, памёр Валянцін Таўлай, паэт, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху.

29 красавіка – 15 гадоў таму, у 2002-м, памёр Ігар Гермянчук, грамадска-палітычны дзеяч, галоўны рэдактар газетаў “Свабода” (1991–1997), “Навіны” (1998–1999), часопіса “Кур’ер” (2000–2002).

**Беларусы ў свеце**

No 3 (178), сакавік 2017

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27